ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 94 (1731) | Пятніца, 23 лістапада 1962 года | Цана 4 кап.



# ІНФАРМАЦЫЙНЫЯ ПАВЕДАМЛЕННІ АБ ПЛЕНУМЕ ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА

**20 лістапада 1962 года Пленум Цэнтральнага Камітэта КПСС працягваў работу.**

**На Пленуме пачалося абмеркаванне даклада таварыша М. С. Хрушчова «Развіццё эканомікі СССР і партыйнае кіраўніцтва народнай гаспадаркай».**

**На ранішнім пасяджэнні выступілі таварышы: Г. І. Воранаў (першы намеснік Старшыні Бюро ЦК КПСС па РСФСР), М. В. Падгорны (першы сакратар ЦК КП Украіны), П. Н. Дзёмічаў (першы сакратар Маскоўскага гаркома КПСС), А. І. Кастаусаў (старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў СССР па аўтаматызацыі і машынабудаванню), В. С. Толсцікаў (першы сакратар Ленінградскага абкома КПСС), І. А. Грышманаў (старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў СССР па справах будаўніцтва), К. Т. Мазураў (першы сакратар ЦК КП Беларусі).**

**На вячэрнім пасяджэнні выступілі таварышы: А. П. Волкаў (старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў СССР па пытаннях працы і заработнай платы), Ш. Р. Рашыдаў (першы сакратар ЦК КП Узбекістана), М. Я. Мамай (брыгадзір камбайнавай брыгады шахты «Сухадольская» 1 трэста «Чырвонадонвугаль»), Д. А. Кунаеў (першы сакратар ЦК КП Казахстана), М. В. Кулікова (памочнік майстра Іванаўскай прадзільна-ткацкай фабрыкі імя Дзяржынскага), В. Ю. Ахундаў (першы сакратар ЦК КП Азербайджана).**

**21 лістапада 1962 года на Пленуме Цэнтральнага Камітэта КПСС працягвалася абмеркаванне даклада таварыша М. С. Хрушчова «Развіццё эканомікі СССР і партыйнае кіраўніцтва народнай гаспадаркай».**

**На ранішнім пасяджэнні выступілі таварышы: В. В. Грышын (старшыня ВЦСПС), В. А. Смірноў (судназборшчык Балтыйскага завода, гор. Ленінград), В. П. Мжаванадзе (першы сакратар ЦК КП Грузіі), Е. А. Далінюк (звеннявая калгаса імя XXII з'езда КПСС, Цярнопальская вобласць УССР), Г. І. Вараб'ёў (першы сакратар Краснадарскага крайкома КПСС), І. І. Бадзюл (першы сакратар ЦК КП Малдавіі), В. В. Кротаў (дырэктар Уральскага завода цяжкага машынабудавання імя Арджанікідзе, гор. Свярдлоўск), А. П. Ляшко (першы сакратар Данецкага абкома КП Украіны), Б. П. Бешчаў (міністр шляхоў зносін СССР), А. М. Школьнікаў (першы сакратар Волгаградскага абкома КПСС), Г. М. Арлоў (старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў СССР па лясной, цэлюлозна-папяровай, дрэваапрацоўчай прамысловасці і лясной гаспадарцы).**

**Пленум выбраў камісію пад старшынствам таварыша М. С. Хрушчова для падрыхтоўкі рэзалюцыі Пленума Цэнтральнага Камітэта.**

**На вячэрнім пасяджэнні выступілі таварышы: Д. Расулаў (першы сакратар ЦК КП Таджыкістана), Г. П. Плотнікаў (свінар-механізатар саўгаса «Пралетарская дыктатура» Растоўскай вобласці), Я. Н. Зарабян (першы сакратар ЦК КП Арменіі), Л. Н. Яфрэмаў (першы сакратар Горкаўскага абкома КПСС), М. У. Келдыш (прэзідэнт Акадэміі навук СССР), В. І. Клаусан (Старшыня Савета Міністраў Эстонскай ССР).**

**22 лістапада 1962 года на Пленуме Цэнтральнага Камітэта КПСС працягвалася абмеркаванне даклада таварыша М. С. Хрушчова «Развіццё эканомікі СССР і партыйнае кіраўніцтва народнай гаспадаркай».**

**На ранішнім пасяджэнні выступілі таварышы І. Т. Новікаў (міністр энергетыкі і электрыфікацыі СССР), З. Н. Нурыеў (першы сакратар Башкірскага абкома КПСС), А. В. Гіталаў (брыгадзір трактарнай брыгады калгаса імя XX з'езда КПСС, Кіраваградская вобласць УССР), Ф. С. Гарачоў (першы сакратар Новасібірскага абкома КПСС), М. А. Лаўрэнцьеў (віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук СССР, старшыня Сібірскага аддзялення Акадэміі навук СССР), В. С. Фёдараў (старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў СССР па хіміі), Б. Авезаў (першы сакратар ЦК КП Туркменістана), Л. Е. Графаў (старшыня Кемераўскага саўнаргаса), Т. Усубаліеў (першы сакратар ЦК КП Кіргізіі), С. П. Паўлаў (першы сакратар ЦК ВЛКСМ).**

**Пленум ЦК КПСС працягвае работу.**

# МУЖНЕЕ НАШ ПОСТУП, СПАРНЕЕ КРОК

## Ухваляем!

*Нашы інтэрв'ю*



Макар Паслядовіч

— З напружаным хваляваннем сочыць уся наша краіна за працай лістападаўскага Пленума ЦК КПСС. Савецкія людзі радуюцца з велізарных поспехаў нашага гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, дасягнутых пад кіраўніцтвам роднай Камуністычнай партыі, адкрыта і рашуча асуджаюць недахопы, якія стрымліваюць наш рух наперад.

Многае з таго, што мы рабілі ўчора, сёння нас ужо не задавальняе. І ў гэтым ёсць свая непахісная логіка, народжаная нашымі гаспадарчымі і культурнымі здабыткамі. Тое, аб чым сказаў у сваім дакладзе Пленуму Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў, сведчыць аб рэвалюцыйнай маладосці нашай партыі і разам з тым аб яе вялікай палітычнай сталасці. Новыя, прагрэсіўныя формы кіравання прамысловасцю і сельскай гаспадаркай павінны прыйсці на змену старым! У аснову павінен быць пакладзены, як гэта падкрэслена ў дакладзе, вытворчы прынцып. Кладзецца, нарэшце, канец кампанейшчыне, гаспадарчай мітусні.

Кампанейшчына... Чаго толькі не ўвасобіла гэтае азначэнне. Мы яшчэ з нядобрых часоў культу асобы прызвычаіліся лічыць «кампаніяй» такія важныя справы, як веснавая сяўба, уборка. Адсюль пачалі шумець: лесанарыхтоўчая, дарожная кампаніі, кампанія па збору металалому, па рамонту кватэр, кампанія па нарыхтоўцы грыбоў і ягад, падпісная кампанія... Некаторыя з гэтых кампаній называліся нават «ударнымі». Хоць усе ўжо ведалі, што пасля вялікага агульнага шуму і «ста тысяч кур'ераў», — гэта значыць, спецыяльных і надзвычайных упаўнаважаных, большага і меншага рангу, камандзіраваных «на месцы», — справа зноў пойдзе па-старому. Часта камандзіраваны ў вёску таварыш не мог адрозніць гароху ад капусты, даваў бязглуздыя парады вопытным людзям, але ж яго павінны былі слухаць, а той-сёй і выконваць тое, што пярэчыла здароваму сэнсу і розуму.

Чым, як не вынікам кампанейшчыны, можна вытлумачыць той факт, што у многіх калгасах нашай рэспублікі яшчэ нізкія ўраджаі, нездавальняючыя надоі малака, а разам з тым і малая аплата працадня?

І тут жа побач, на такой самай зямлі, толькі пры разважлівым і настойлівым старшыні, другі калгас радуе нас сваімі вялікімі гаспадарчымі і культурнымі здабыткамі!

Вялікая размова ідзе на Пленуме пра шляхі нашага далейшага поступу наперад. Бо «галоўнае ў камуністычным будаўніцтве, — як сказаў таварыш Хрушчоў, — гэта эканоміка, гэта вытворчасць, гэта барацьба за стварэнне матэрыяльных і духоўных даброт для жыцця чалавека».



**Віталій Цвірко,**

**заслужаны дзеяч мастацтва БССР**

— Перш за ўсё я хачу сказаць вось аб чым. Размова, якая ідзе зараз на Пленуме ЦК КПСС, настолькі глыбокая і важная па свайму значэнню, што яна сапраўды завалодала думкамі кожнага савецкага чалавека. Радзіма наша нібы вызначае сёння свае каардынаты, выходзіць яшчэ на адзін старт у будучыню. Уся веліч і надзвычайнасць такога моманту не можа не хваляваць мяне як мастака. Думаецца, што перадаць пафас нашых дзён у творчасці, раскрыць духоўнае багацце народа — здзяйсняльніка вялікіх планаў партыі, — гэта высакародны абавязак мастака.

# КУРС—НА КАМУНІЗМ

**Тарас ХАДКЕВІЧ**

Радаснае, акрыляючае пачуццё агортвае, калі чытаеш даклад таварыша М. С. Хрушчова на Пленуме аб развіцці эканомікі СССР і партыйным кіраўніцтве народнай гаспадаркай. Ён хвалюе тым, што ў ім глыбока ўзняты карэнныя надзённыя пытанні жыцця і стваральнай дзейнасці савецкага народа, з кожнага радка яго ўстае перад намі ясная мудрасць творчай распрацоўкі ленінскіх запаветаў аб будаўніцтве камунізма, ён прасякнут нястомнымі клопатамі партыі аб далейшым росце багацця і магутнасці нашай краіны, а разам з тым—аб бесперапынным паляпшэнні народнага дабрабыту.

Савецкі народ, будуючы пад кіраўніцтвам роднай ленінскай партыі камунізм, пракладвае шлях у светлую, шчаслівую будучыню ўсяму чалавецтву. Нягледзячы на цяжкія нягоды і выпрабаванні, што выпалі на яго долю, наш народ здолеў дабіцца такіх поспехаў у развіцці эканомікі і культуры, якія дазволілі Камуністычнай партыі Савецкага Саюза на сваім XXII з'ездзе вызначыць канкрэтную велічную праграму пабудовы камуністычнага грамадства ў нашай краіне.

Лічбы і факты, прыведзеныя ў дакладзе таварыша Хрушчова, аб выніках выканання сямігадовага плана за мінулыя чатыры гады сведчаць, што Краіна Саветаў дасягнула новых вышынь у развіцці прамысловасці і сельскай гаспадаркі, што «справы нашы,—як кажа Мікіта Сяргеевіч,—ідуць паспяхова і праводзімы партыяй ленінскі курс прыносіць добры плён». Як не радавацца нам, савецкім людзям, чуючы аб тым, што за гэты час уведзены ў строй тысячы буйных прадпрыемстваў, што «ў прамысловасці створаны новыя вытворчыя магутнасці, якія па сваіх размерах перавышаюць магутнасці, створаныя за ўсе гады даваенных пяцігодак», што сельская гаспадарка нават у сёлетнім, неспрыяльным у кліматычных адносінах, годзе дала дзяржаве збожжа, мяса, малака і іншай прадукцыі больш, чым летась!

Як вопытны, упэўнены ў сваіх сілах рулявы вядзе карабель у бязмежным акіяне па зададзенаму курсу, так партыя вядзе ленінскім курсам наш народ у камуністычную будучыню. Яна выпраўляе адхіленні ад гэтага курсу, шукае і знаходзіць, зыходзячы з канкрэтных абставін, рашэнні, каб своечасова ліквідаваць перашкоды на нашым шляху, каб наша хада наперад была найбольш паспяховая.

Чытаючы ў дакладзе таварыша Хрушчова аб задачах арганізацыйнай перабудовы партыйных і савецкіх органаў з мэтай паляпшэння кіраўніцтва народнай гаспадаркай, аб адзінай тэхнічнай палітыцы і ўдасканаленні кіраўніцтва прамысловасцю, аб мерах па далейшаму ўздыму сельскай гаспадаркі і аб перабудове і ўзмацненні партыйна-дзяржаўнага кантролю, глыбока пераконваешся, што ўсе гэтыя важнейшыя меры не з'яўляюцца выпадковымі. Яны падказаны патрабаваннямі сённяшняга жыцця, узроўнем развіцця нашага грамадства, гістарычным курсам партыі на аднаўленне ленінскіх прынцыпаў і норм у партыйнай і дзяржаўнай дзейнасці, груба парушаных у перыяд культу асобы Сталіна.

І яшчэ што кідаецца ў вочы пры чытанні даклада—гэта тое, што пытанні, вынесеныя на абмеркаванне Пленума, былі папярэдне ўсебакова і з усёй глыбінёй вывучаны, па гэтых пытаннях Цэнтральны Камітэт партыі раіўся з шырокімі коламі партыйнага, дзяржаўнага і гаспадарчага актыву, з перадавікамі вытворчасці. І не дзіўна таму, што даклад таварыша Хрушчова выклікае жывы водгук у сэрцы кожнага сумленнага працаўніка, што ў гэтыя дні можна пачуць з вуснаў рабочага, спецыяліста, работніка сельскай гаспадаркі: «Вось тое, аб чым і мне часам думалася. Вось тое, што абавязкова неабходна зрабіць!».

Магчыма, не кожны з нас яшчэ да канца ўяўляе ўсю тую шкоду, якую нанёс будаўніцтву камунізма культ асобы Сталіна з яго закасцянела-бюракратычнымі формамі падыходу да важнейшых спраў, з яго пагардай да народа, з заціскам ініцыятывы шырокіх мас. Няшчадна выкрываючы і ліквідуючы вынікі культу асобы Сталіна, партыя расчышчае наш шлях у камунізм ад перашкод, развязвае творчую ініцыятыву мас.

Даклад таварыша Хрушчова на Пленуме — узор творчага ленінскага падыходу да самых істотных праблем пабудовы камунізма ў нашай краіне. Мы бачым у ім працяг і далейшае развіццё мудрай палітыкі партыі, акрэсленай гістарычнымі XX і затым XXII з'ездамі КПСС, той палітыкі, якая забяспечвае пабудову камуністычнага грамадства пры жыцці цяперашняга пакалення савецкіх людзей.

Набліжэнне партыйнага і дзяржаўнага кіраўніцтва да вытворчасці, яшчэ больш шырокае прыцягненне працоўных да ўдзелу ў кіраванні вытворчасцю, у вырашэнні надзённых пытанняў жыцця і працы, аднаўленне і захаванне ленінскіх прынцыпаў партыйна-дзяржаўнага кантролю — усё гэта адпавядае вышэйшым народным інтарэсам, падпарадкавана адной агульнай мэце: як найхутчэй і з найбольшым поспехам увасобіць у жыццё велічную праграму будаўніцтва камунізма.

Інтарэсы партыі і народа ў нас адзіныя, непадзельныя, і народ адзінадушна і горача падтрымлівае рашэнні, якія прымае партыя, бо яны выяўляюць думкі і спадзяванні народа, накіроўваюць яго па правільнаму ленінскаму курсу—да камунізма.

# КАБ ЗАДАВОЛІЦЬ ЦІКАВАСЦЬ ЧЫТАЧА

Сёння матэрыялы Пленума ЦК КПСС у цэнтры ўвагі кожнага савецкага чалавека. Больш мнагалюдна стала ў чытальных залах нашых бібліятэк.

У чытальнай зале Мінскай бібліятэкі імя Максіма Горкага сабраны ўсе газетныя матэрыялы аб рабоце Пленума.

У дапамогу агітатарам і дакладчыкам работнікі бібліятэкі рыхтуюць картатэку па матэрыялах Пленума ЦК КПСС.

Нядаўна бібліятэка правяла семінар работнікаў заводскіх тэхнічных бібліятэк Мінска, на якім шырока абмяркоўвалася пытанне аб ролі бібліятэк у прапагандзе рашэнняў Пленума ЦК КПСС. З гэтай жа мэтай работнікі бібліятэкі імя М. Горкага выязджаюць у абласныя цэнтры.

Рыхтуецца навукова-практычная канферэнцыя бібліятэчных работнікаў горада. Шмат увагі будзе аддадзена пытанням прапаганды рашэнняў Пленума ЦК КПСС.



**Незвычайны творчы ўздым пануе ў гэтыя дні ў цэхах паліграфічнага камбіната імя Якуба Коласа. Друкары і фальцоўшчыкі, наборшчыкі і пераплётчыкі, прачытаўшы гістарычны даклад М. С. Хрушчова на Пленуме Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, пераглядаюць свае зменныя нормы і бяруць абавязацельствы працаваць яшчэ лепш на карысць любімай Радзімы.**

**Паліграфісты з цікавасцю сочаць за работай Пленума. У час абедзенных перапынкаў яны калектыўна чытаюць матэрыялы Пленума, абмяркоўваюць іх. Адна з такіх шчырых гутарак адбылася ў наборным цэху. Манатыпіст Павел Умрыхін пачаў чытаць уголас газету, і праз некалькі мінут каля яго сабраліся амаль усе рабочыя цэха. Паліграфісты выказвалі свае думкі, горача падтрымліваючы мерапрыемствы партыі па далейшаму паляпшэнню кіраўніцтва ўсёй народнай гаспадаркай краіны.**

**Калектыўную чытку газеты ў наборным цэху зазняў наш фотакарэспандэнт Ул. Крук.**

## Пісьменнік і час

# ЭНЕРГІЯ ПАЭТЫЧНАГА ВОБРАЗА

**Віктар ГОВАР**

НОВАЯ КНІГА. Я трымаю яе ў руках. Яркая вокладка, яркі паэтычны загаловак — «Я іду!», «На сонечным шляху», «Неба ўсміхаецца маланкаю...» Што за гэтай расфарбаванай вокладкай? Куды павядуць мяне гэтыя лесвічкі і слупкі?

Разгортваю тоненькую кніжку, чытаю... А побач раз-пораз чуюцца адны і тыя пытанні:

— Новыя вершы ёсць?

— Еўтушэнка?

— Межалайціс, Лугаўскі, Салавухін?

— Вершы ёсць?

Дайце вершы! Самыя разнастайныя, але абавязкова выдатныя, у якіх ёсць... Дайце вершы!

Сучасны чалавек хоча многа бачыць, адчуваць, разумець, ён хоча дакранацца да ўсяго, што жыве ў чалавечых душах яшчэ нераскрытым і вялікім. І паэзія кліча, вядзе туды, дзе ўсё новае, нечаканае, дзе набывае значэнне нават самы непрыкметны рух, самае нязначнае слова.

Вялікі свет паэзіі! А ён жа, на першы погляд, не такі, як у жыцці: у ім па-новаму ацэнены каштоўнасці нашага звычайнага, зямнога. У ім магчыма нават самае неверагоднае. Тут і сіняе паветра можа гудзець пад ударамі сонца, і на пальцах рук можа быць дзесяць зрэнкаў, і слова можна ўзяць у абцугі або пакласці на кавадла, і сэрца можа ў паветры лунаць, як сцяг. Тут, быццам у казачным царстве, ажываюць усе прадметы, яны разумеюць, бачаць, гавораць, тут усмешка аддзяляецца ад твару чалавека і пачынае самастойнае жыццё. Тут адбываецца часам тое, чаго не выдумаеш і за сто гадоў.

А чалавек чытае і даведваецца пра сваё кроўнае, хвалюючае, рэальна-зямное, пра тое, што ляжыць у самым сэрцы, што было з ім учора, ёсць сёння, будзе заўтра.

Трэба прызнаць, што чытач не заўсёды адразу знаходзіць сцежку да сапраўднай паэзіі. Часамі, здараецца, крытыкі, накшталт некаторых старажылаў, якія не ведаюць сваёй вуліцы, накіроўваюць яго зусім не ў той бок. І яму даводзіцца доўга блукаць у радках такога «гатунку»:

Сябры мае, мы ў паўналецце
Прыйшлі праз буры, перуны.
Ужо не мы, а нашы дзеці,
А нашы дочкі і сыны
Бяруць пуцёўкі ў камсамоле
Ў кавыльны стэп, на Ангару,
Каб у шчаслівай яснай долі
Яшчэ вышэй узняць зару.

Гэта з вершаў Антона Бялевіча.

Ці не праўда, крыху сумна? Быццам гэта не раз было чытана і забыта, цяпер зноў прачытана і праз пяць мінут зноў забудзецца. Дзіўна, у гэтых вершах усё правільна, прыгожа і — сумна.

Чытаеш такія вершы і адчуваеш, што жыццё наша больш складанае, рознабаковае, чым у паэта. І рытмы ў жыцця іншыя, і фарбы другія — яркія, гучныя, і няма ў сучаснага чалавека той прымітыўнасці, якую спрабуе даказаць у сваіх вершах Авяр'ян Дзеружынскі.

Расквітнела ты, дзяўчына,
Як чырвоная каліна.
Жаніхоў хапае ў нас,
Пра вяселле думаць час.

Бедны, вельмі бедны духоўна чалавек у такіх вершах. Гэта толькі адзін, знешні, не самы галоўны яго бок жыцця.

Ёсць глыбіні душ, і Маякоўскі заклікаў здабываць адтуль—з артэзіянскіх людскіх глыбінь—каштоўнае слова. Гэта вельмі цяжка, для гэтага патрэбна пераварочаць тысячы тон слоўнай руды, але гэта неабходна, бо цэніцца толькі такая паэзія, якая можа пранікнуць у чалавечую душу.

Зараз многія пагаджаюцца на думцы, што для сучаснага мастацтва характэрна філасафічнасць, роздум. Насычаць думкай імкнуцца свае творы і кінематаграфісты, і мастакі, і паэты. Людзі хочуць зразумець сваё неспакойнае дваццатае стагоддзе. Вялікае паэтычнае тварэнне Уладзіміра Лугаўскога «Сярэдзіна веку»—гэта роздум аб мінулым, аб сучасным, ён накіраваны ў будучыню. У паэта роздум часам вельмі складаны, своеасаблівы, але заўсёды светлы і глыбокі. Думаюць над лёсам чалавека Межалайціс, Салавухін, Еўтушэнка і многія, многія іншыя паэты. І ва ўсіх вершах ідзе неспакойны рух думкі.

У нашай беларускай паэзіі таксама намячаецца гэтая тэндэнцыя. Насычаюць думкаю вершы многія нашы паэты. Можна прывесці прыклады з Пімена Панчанкі, Максіма Танка, з іншых паэтаў старэйшага ўзросту. У іх вершах відаць неспакойная чалавечая асоба, якая хоча даведацца, прадумаць, прааналізаваць, вырашыць, увязаць усё са сваімі псіхалагічнымі перажываннямі.

У гэтым артыкуле мне хочацца пагаварыць аб паэтах больш маладога пакалення і аб зусім маладых.

ХОЧАЦЦА ПАЧАЦЬ з Навума Кісліка. Не ўсім падабаюцца яго вершы, многія не ў захапленні ад яго вобразаў. Кажуць, што ён вельмі рытарычны, што другі зборнік паэта горшы за першы. І ўсё ж я вырашыў пачаць гаворку з яго. Я, чытач, чакаю яго новыя вершы. У іх я знаходжу часта тое, што мне толькі мроілася, што я смутна адчуваў, але не мог выказаць:

Всё меньше в людях сгорбленности,
робости,
Все больше в людях
гордости и совести.
Все способы, все средства перепробуйте,
а этого
ничем не остановите.
Труда и крови стоит выпрямление,
но что ни день,
то меньше в людях слабости.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Идет по свету век очеловеченья,
и этого
ничем не остановите.

Думка гэтага верша вельмі сучасная, яна перагукаецца з думкаю, якую выказаў у адным з вершаў Я. Еўтушэнка,—часам звычайную сумленнасць завуць смеласцю. Людзям патрэбна навучыцца быць самімі сабою — шчырымі, сумленнымі, адкрытымі. У гэтым пафас верша Н. Кісліка. Ён улавіў асноўную тэндэнцыю нашага жыцця — растучую ў людзях агіду да фальшу, паказухі, ненатуральнасці. Чалавек павінен ачалавечвацца!

Навум Кіслік расказвае і аб складаных, і аб простых жыццёвых з'явах, але ўсе свае назіранні ён імкнецца паэтычна асэнсаваць, надаць вобразам сучаснае гучанне.

Усё ж і мне хочацца сказаць, што многія вершы Н. Кісліка халодныя. Магчыма, гэта тлумачыцца асаблівасцю мастацкага мыслення паэта. Навум Кіслік не паказвае пачуцці і думкі, а расказвае пра іх. Ён апелюе да розуму чытача, даказвае свае перажыванні, і таму, магчыма, некаторыя яго вершы не выклікаюць у нас пэўнага настрою.

Своеасаблівасцю думкі вылучаюцца вершы Уладзіміра Караткевіча. Яны крыху нязвыклыя, на першы погляд, яны здаюцца расцягнутымі, часам незразумелымі, крытыкі папракалі яго за «Баладу аб першым» і за іншыя рэчы. Але гэта паэт са сваім светам, у гэты свет патрэбна ўвайсці, патрэбна ў яго «ўжыцца», каб зразумець і прыняць. Уладзімір Караткевіч інакш, чым Навум Кіслік, імкнецца ўсвядоміць сучаснае. Ён звяртаецца да гісторыі чалавецтва, да яго багатай шматвяковай культуры. Ён знаходзіць нейкія паралелі, нейкія пункты сутыкнення сучаснага і мінулага. Для многіх яго вершаў характэрна недагаворанасць думкі, быццам ён кажа толькі чытачу: вось у гэтым напрамку варта крыху падумаць. Чытаючы вершы Караткевіча, трэба быць не проста чытачом, якога паэт забаўляе, трэба быць сааўтарам паэта. Без такой умовы вершы паэта цяжка зразумець. І хоць некаторым паэтам, крытыкам не падабаецца вершаваная манера Караткевіча,— кажуць, што гэта рэмінесцэнцыі, перапевы — мне здаецца, можа гучаць па-сучаснаму і такая паэзія. Магчыма, яе недахоп толькі ў тым, што яна разлічана не на масавага чытача. Але ж тэндэнцыя нашага часу такая, што ўсе чытачы пачынаюць больш глыбока цаніць і разумець паэзію.

У гэтай жа сувязі — у сувязі з тэндэнцыяй фі-

(Заканчэнне на 2-й стар.).

